№ 4 Вільня, 27 чэрвеня 1920 г. Год I

# НЕЗАЛЕЖНАЯ ДУМКА

**Палітычна-грамадзянская і літэратурная часопісь**

**Выходзіць што тыдзень.**

Рэдакцыя і Адміністрацыя: Вострабрамская 9—5, адчынена штодзень ад 11 да 1 г. апрача сьвят.

Асобны нумэр 2 маркі, на 1 год 100 мк. на 6 месяцоў 50 мк., на 3 мес. 25 мк. на 1 м. 8 м.

## Беларускае селянство і зямелнае пытаньне *)

III

Мы ужо пісалі, што селянства наша дабіваецца перадачы ўсей зямлі ў Беларусі ў рукі працуючага ў Беларусі народу не для таго, каб закладаць селянскія зямельныя каммуны, а ў прыватную уласнасьцъ гаспадара-земляроба.

Такім чынам селянство хоча:

1) Каб зямлёю наш гаспадар-земляроб валадаў, а не карыстаўся толькі, як гэтага хочуць каммуністы і блізкія да іх партыі,

2) Каб памешчыцкія, цэркоўныя, касьцельныя і некаторыя гасударсцьвенныя землі перайшлі у валаданьне працуючага на зямлі селянства,

3) Каб кожны валадар зямлі меў яе ня больш, як столькі, колькі ён можа абрабіць сам,

4) Каб празпалоснае валаданьне зямлею было заменяна на хутарское,

5). Каб у першы чарод былі надзеляны зямлею беззямельные і малозямельные.

Вось больш-меньш тое, чаго дабіваецца селянства ў зямельным пытаньні. Мы ужо казалі раней, што ні водная палітычная партыя, ні беларуская, ні нават расейская ці польская не вырашае зямельнага пытаньня ў беларусі так, як гэтага хоча наша селянства. У социалістычных і камуністычных партыях усё роўна ці яны будуць беларускія, ці расейскія, ці польскія,—права на валаданьне зямлею ці зусім адкідаецца, ці не выразна, як бы часова, прызнаецца. Зямляробу, каторы хоча папрацаваць над сваей зямлёю, гэтыя партыі даюць слабую гарантыю на тое, што яны раптам не скасуюць ўласнасьці на зямлю і тым самым зруйнуюць добрай гаспадаркі старраннага земляроба, аддаўшы яе ў агульнал карыстаньне ўсяго обчэства, а значыцца і тых, хто працаваць ня любіць і жыве гультаём, На гэта наш селянін, ні колі не знаўшы „абшчыннай гаспадаркі,“ ня пойдзе, апрача хіба аднаго выгану для быдла.

Цяпер паглядзім у другі бок—на буржуазныя партыі. Да апошняга часу партыі гэтыя (бэларускія, польскія, расэйскія) мала лічыліся з селянскімі інтарэсамі і згаджаліся на прырэзкі селянам зямлі глаўным чынам за кошт казённых і нават памешчыцкіх, але ні кадэты і ні водная іншая буржуазная партыя Белсрусі, Полшы і Расеі ніколі не згаджалася прызнаць патрэбу перахода ўсей зямлі ў рукі працуючага народу і, значыцца, не адпаведалі жаданьням селянства.

Мы цяпер бачым, што ні ў вадной партыі, так ці інaчэй вырашаючай зямельнае пытаньне ў нас на Беларусі німа такой зямельнай праграмы, каторую нашае селянства прыняло, як сваю.

Адсюль вывад: нашае беларускае селянства павінна арганізавацца ў сваю селянскую партыю, каторая і возьме на сябе працу бараніць селянскіе зямельные інтарэсы проціў усіх, хто тым ці іншым спосабам гэтыя інтарэсы селянства хоча пакрыўдзіць.

Разумеецца, селянская партыя (ці саюз) будзе бараніць ня толькі зямельныя, а і ўсе іншыя селянскіе інтарэсы,

---

*) Гл. № 2 „Н. Д.“

бо нашае селянства ужэ выйшла з дзіцячага возрасту і зусім пасьпела бараніць само сябе.

У нашых суседзяў—латышоў, эстонцаў, літоўцаў, фінаў і іншых селянства сарганізавалася ужо ў селянскія саюзы. Чарод за намі. І мы гэта зробім памятуючы, што «у арганізацыі і аб'еднаньні — наша моц» і што „толькі ўласнай рукой мы дабьёмся асвабаджэньня і зямлі“.

Селянін.

# Аб беларускіх школах.

Палажэньне беларускай школы ў Віленшчынэ вельмі цяжкае. Прычын таму шмат, аб іх не раз пісалася на страніцах беларускіх газэт, і цяпер мы ня маем патрэбы паўтараць усяго гэтага. Хацелася б толькі зьвярнуць увагу на адзін факт, які вельмі кідаецца ў вочы — гэта поўнае неэнаньне нашым селянствам істнуючых распаражэньняў аб парадку адчыненьня беларускіх школ. У Віленскія беларускія арганізацыі з усіх канцоў Віленшчыны прыходзіць шмат запросаў, як адчыніць беларускую школу. І гэтаму німа чаго дзівавацца. Усялякія распаражэньня ў нас пішуцца толькі па-польку, і, дзякуючы гэтаму, беларускае грамадзянство пападае ў палажэньне чэлавека, для якаго „закон ня пісаны“. На гэты факт хацелася б зьвярнуць увагу прадстаўнікоў нашае ўлады; бо і так прасьветы ў нашым краю не за шмат лішне: так, ў польскіх газэтах мы чытаем, што для польскіх школаў ў Віленшчыне не хапае настаўнікаў, што для адшуканьня іх амаль не зьбіраюцца пасылаць экспэдыцыі ў заморскія краі; дык ня дрэнна былоб для справы прасьветы ў Віленшчыне усялякія распараджэньня, датычучыя школаў, друкаваць ня толькі на польскай мове, але і па-беларуску, ў форме асобных абвестак і кідаць іх у вёскі, у гміны і грамады, каб людзі ня біліся, як рыба аб лёд, шукаючы дарогі да сьвету. Разам з тым, ці ня дрэнна было б зрабіць рэгістрацыю беларускіх вучыцялёў. Можа б тагды, без заморскіх экспэдыцыяў, знайшлося б ў нашым краю досьць настаўнікаў, якія вызвалілі бы сваіх польскіх таварышаў ад не ўдзячнай работы—навучаньня беларусаў у польскай мове і далі-б тым самым магчымасьць працаваць ім на іх роднай ніве ў польскім краю, дзе так сама не залішне шмат настаўнікаў. Можа, хто калі-небудзь паслухае нашых парад. Аднак, лічучы, што найпэўнейшая справа, калі ня будзем аглядацца на другіх, а да ўсяго даходзіць уласнымі сіламі, мы хочам тутакі, хаця ў кароткіх славах разказаць нашым чытачом, як адчыніць беларускую школу.

Для вялікіх грамацеяў на сам перш раз скажамо, што парадак адчыненьня беларускіх школаў паказаны ў № 31 «Dziennik Urzędowego» ад 18 лістапада

# На купальле.

Я. Купала.

На Купальле на сьвятое
Рві, матуля, зельле тое,
Што ў нас папараць завецца!
І шчасьлівым быць здаецца!

Як нарвеш яго даволі
У цемным лесе, ў чыстым полі,-
Палажы за абразамі
Пасьвяньці сваймі слезамі...

Двойчы, тройчы—а краплістай—
Зьлій сьлязою брылянцістай
І чакай з яго прыплоду
Ад усходу да заходу...

Як із зельля глянуць кветкі,—
Будуць шчасьце меці дзеткі,
Будем, маці, меці ў хаце
Долю, згоду і багацьце!..

(„Шлях. Жыцьця.“)

# Купальская ноч.

Купаленька
Ночка маленька,
Да удаленька.

Купальная песьня

Дзіуная ноч наступае
Ноч начэй ўсіх карацей,
Чары людзям навевае
Сілай закляцьця сваей.

Хто-б ты ні быў, чалавеча,
Сталы, стары, малацы,

1919 году ў распараджэньні 15931/259. "Dziennik Urzędowy" можна купіць у магазыне Завадзкага на Вялікай вуліцы і каштуе ён дзве маркі. З гэтага распараджэньня відаць, што, калі беларускую школу захоча адчыніць прыватная асоба альбо грамадзкая арганізацыя, дык пры адчыненьні яе будзе столькі клопатаў, што лепей і не пачынаць. Найлягчэй адчыніць беларускую школу, калі аб гэтым клапаціцца будзе Гмінная Рада. Асновай для клопатаў аб адчыненьні беларускае школы павінна быць прысутнасьць ня менш 30-х дзетак, якія будуць вучыцца ў гэтай школе. Дзеля гэтага трэба на сходах вынасіць пастановы аб адчыненьні беларускай школы з падпісамі тых бацькоў, якія хочуць пасылаць сваіх дзетак у беларускую школу, з вылічэньнем, колькі дзетак з падпісаўшыхся бацькоў будзе пасылаць, і каб усяго дзетак было ня меньш, як 30. Подпісы бацькоў мусяць быць засьведчаны мейсцовай уладай (войт, альбо солтыс, і пастанова гэткая павінна быць сьціравана да паветовага школьнага інспэктара. Ад сябе мы можамо парадзіць каб разам з пасылкаю прыгавару пану паветаваму школьнаму інспэктару, одпіс прыгавору прысылаць у Беларускую Школьную Раду Віленшчыны для ведама (Вільня, Вострабрамская вул. № 9.), каб яна магла дапільнаваць справу адчыненьня школы, калі прыгавар гэны пападзе ў Вільню да пана Акружнога Школьнага Інспэктара. Тым часам на гэтым і скончым. Трэба памятаваць, што не так хутка ўсё робіцца, як напісана, і хто хоча ў восені мець беларускую школу, той не адкладаючы, павінен адразу прымацца за справу. Бліжэйшыя інфармацыі аб адчыненьні школаў можна атрымаць у Беларускай Школьнай Радзе Віленшчыны.

Школьны работнік.

# ПАТРЭБА.

Наша беларуская літэратура пакуль што надта бедная. З болем сэрца аб гэтым прыходзіцца гаварыць, але не заплюсківаць жа вачэй на гэта, тым балей што кніжак ў нас мала не за тое, што няма ў нас талентаў і здольных людзей. Тут шмат есьць іншых прычын, як вядомых усім і зразумелых, так і захаваных і нерастлумачэных. Але не аб іх мы будзем зараз казаць.

Мы—беларусы творым нашу будучыну, куем свае шчасьця, не асабістае шчасьця, а шчасьця бацькаўшчыны. А наша будучына—гэта нашы дзеці. Іх мы павінны узгадаваць такімі, каб яны увайшлі ў жыцце зусім падгатаванымі зьмяніць нас, каб ім ня трэба было потым працаваць над тым, што так легка ўкладаецца ў дзіцячы розум і часамі цяжка дастаецца даросламу, а першае,

Будзеш, было так спрадвеку,
Будзеш чурацца бяды.

К вольнасьці к шчасьцю, к багацьцю
Будзеш ірвацца ўвесь век,
Будзеш шукаці закляцьця
Брацьцям людзям ты на зьдзек.

Вось на Купальле сьвятое
З ночкай чароўнай сваей,
Папараць—зельле малое
Дасьць табе шчасьце—смялей!

Толькі, як пойдзеш шукаці
Долю сваю ў лес густы,
Помні, што ночка маляя,
Папарці-ж кветка, як дым.

Б. О—віч

# У аб'яднаньні—моц.

Пятрук ужо пастарэў, чуў ен што ня доўга яму засталося жыць.

Успомніў ён што не мала ужо і перажыта. Некалі быў маладым, дужым чалавекам, а цяпер і хадзіць цяжка, і сівы ужо зрабіўся, і трох сыноў ужо пажаніў.

— Пара мусіць паміраць... — часта думаў Пятрук.

Дадумаецца бывала да гэтай думкі і маркотка яму стане. Жаль пакідаць сваю крэпкую гаспадарку. Знаў ён' што калі сыны падзеляцца, дык ад гаспадаркі нічога, бадай, і не застанецца. Калі цяпер што і ёсць, дык толькі дзеля таго, што дагэгуль, пры яго жыцьці усе жылі з ім разам. Больш усяго баяўся Пятрук

кап яны шчыра любілі ўсе свае роднае, пачынаючы з мовы. Будуюцца школы, павялічываецца лік вучняў. Яны вучацца роднай мове, хутка пачынаюць чытаць і патрабаваюцца ў духоўнай ежы. А часамі бывае так: чытаць німа чаго. Мы дарослыя разумеем, ў чым справа, мы, так сама, карыстаем з іншых моў. А малое дзіця? Яно будзе толькі црасіць і не зразумее таго, чаму у чужой школцэ есьць што чытаць, а у роднай няма. Гетага вось не павінна быць. Усё трэба зрабіць, кап кніжкі для дзіцячага чытаньня былі, і ня толькі каб досыць надрукавалі тых, што ёсьць, алэ каб пісаліся і тварыліся новыя і новыя. Людзі ёсьць і знойдуцца. Але яны оольш занятьі палітыкай, пашырэньнэм нацыянальнай сввядомасьці сярод дарослых, а тым часам расьце маладое, новае пакаленьне, якое троху пагадзя так сама прыйдзецца асввятляць і клікаць да гэтай сьвядомасьці. Няхай жа ня будзе так. Мы верым, што ёсьць у нас людзі здольныя і спадзеваемся, што яны зьвярнуць увагу на гэту патрэбу. Нашы дзеці, якім мы даем магчымасьць чытаць ў роднай мове, павіны мець досіць духоўнай ежы, і мы не дапусьцім таго, каб хто з іх падросшы сказаў: мяне, відаць, дарма вучылі, і я пайду давучывацца ў чужую школу.

Пэдагог.

* * *

Атшчыпну я лісток ад бярозы радной
І табе на чужыну пашлю.
Ен успомніць табе, як прыгожы вясной
Лес і неба у родным краю.

Паглядзіш на яго і забудзеш пра то,
Як жывецца ў чужой старане,
Ен паклічыць цябе, як прыяцель, за то
У засень родных бярөз на радзімай зямле.

І у сэрцы тваем, як жалейкі гудок.
Узноў песьню вясна запяе,
Што радзімы, зялёны, пахучы лісток
На чужыну табе прынясе.

Б. О—віч.

# На белым сьвеце.

## „Ці гэта праўда?“

У № 165 „Robotnika“ пад такім загалоўкам напісана:

„У бальшавіцкіх комунікатах аб заняцьці Кіява сказана, што польскія войскі перад тым, як пакінуць горад ўзарвалі электрычную станцыю, вакзал, вадакачку і сабор св. Уладзіміра. Зьніштажэньне гэтага сабору бальшавікі называюць большым барбарствам, як зьніштажэньне праз немцаў сабору ў Рэймсе. Ці гэта праўда?“ пытаецца „Robotnik“.

таго, каб пасля яго смерці сыны ня ўздумалі дзяліцца.

Думаў, думаў і дадумаўся да таго, што трэба пагаварыць з сынамі. Адзін раз паклікаў ён сыноў.

— Пойдземо ў поле дзеткі, паглядзімо, ці ня пара жыта жаць?

Было свята. Усе ужо выспаліся, адпачылі і з ахвотай згодзіліся са старым пайсьці ў жытняе поле.

— Вось што сынкі,—пачаў бацька,— Жыць мне на гэтам свеце мусіць засталося ня многа. Хацеў бы я ведаць што вы будзеце робіць бэз мяне, як будзеце жыць.. Гэтага поля,—ён паказаў рукоў,— ня хапіць на ўсіх, калі вы падзеліцеся.

— Дзеля чаго не хапіць?—запытаўся маладзейшы з сыноў.

— А вось палічыце. Пяць дзесяцін, калі падзяліць на ўсіх, дык будзе па паўтары. Ну што вы зробіце на гэткім малым кавалку зямелькі пасля подзелу? У заработкі пайдзецё і распылецеся ўсе па беламу свету.. Можа і зусім прападзецё..

— Чаго-ж мы прападзем? Мы яшчэ дужы, молады...

— Не, сынкі! Гляньце, сынкі мае, на наш коапэратыў. З пачатку ен быў бедны, мы яго усей вёскай пачалі чуць ні з рубеля, пай дробны, думалі тады што гэта нічога ўсім не паможа.. А ці-ж вы не бачыце як гэны коапэратыў цяпер стаў моцны, як многа бедным селянам ён памагаець. Цяпер і Іцка сваю крамку ўжо зачыніў і перэбраўся ў город. Засталася наша коапэратыўная крама з народным домом пры ёй...

## Расея і Антатна.

Прэдстаўнік расейскіх саветаў Красін ў перагаворах з прэдстаўнікамі Антанты сказаў ім, што Расея адмаўляецца выплачываць Антанце даўгі, якія зрабіў царскі урад Калі Антанта будзе усе-ж такі дабівацца выплаты, то Расея патрэбуе ад Антанты выплаты грошаў за прашкоды, якія Антанта зрабіла Расеі дзянуючы сваёй помачы конт-рэвалюцыі. Расея так сама патрэбуе ад Антанты выпаўненьня усіх дагавораў, — таемных і яўных, якія былі паміж імі зробляны, паміж іншым—аддачы Расеі Канстантынополя.

## Пытаньне аб Вільні.

Яы мы паведамлялі ў № 1 «Незалежнай Думкі», народны камісар Чычэрын згаджаўся было прызнаць літоўцам Вільню. Аднак, ў апошні час становішча Чычэрына спаткала моцны адпор сярод іншых сяброў так званай «пяцёркі», кіруючай справамі Камісарыяту Заграцічных Спраў. Чычэрын „захварэў“ і аканчацельнае вырашэньне справы прызнаньня Літоўцам Вільні адложана.

## Габінэтны крызіс ў Польшчы.

Ужо канчаецца трэцьцяя нядзеля, як ў Польшчы цягнецца крызіс міністэрства. Спачатку узяліся за утварэньне габінэту—цэнтра—левага. Гэта не удалося. Тады Начальнік Гасударства даручыў фармаваньне габінэту быўшаму прэмьеру п. Скульскаму. Яму так сама не удалася гэта справа. Тады даручана было пану Брэйскаму сфармаваць новы габінэт. Пасьля некаторых папытак п. Брэйскі адмовіўся стварыць габінэт, і Начальнік Гасударства даручыў фармаваньне паслу Вітосу. Вітос, як адзначаюць польскія газэты, ёсьць вінавайца упадку габінэту Падарэўскага і габінэту Скульскага. Цяпер Вітосу прыходзіцца самаму стаць на места Падэрэўскага і Скульскага. Ці удасца яму сфармаваць габінэт—ня ведама.

Габінэт Вітоса павінен быць цэнтралевым, з уваходам ў яго склад польскіх соцыялістоў, з п. Дашынскім—міністрам загранічных спраў, проціў чаго вельмі востра выступаюць правые.

Як відаць з польскіх газэт, справа утварэньня новага габінэту зацяжкая і пры сучаснай сітуацыі ў Сойме натта запутаная.

## Літоўскі габінэт.

Літоўскі габінэт аканчацельна зложыўся:

Прэзыдэнт міністраў: Д-р К. Грыніус, сацыал.-людов., заграніч. справы: Д-р Пурыцкі, хрысьц. дэмакрат. унутр. справы: Скіпіціс, соц. „Сантара“, Гандаль і фінансы: Гальваноўскі, быўш. прэмьер, б соц. люд., асьвета. Біжоўскі, хр. - дэм.,

---

— Коапэратыў — гэта другая справа,—адазваўся ўсё той самы сын.

— Не, дзеткі, дужа вялікае сходства!

— Якое—ж?

— У аб'еднаньні—моц. Калі аднаму цяжка што небудзь зробіць, дык трэба паклікаць другога, а калі і з ім ня здужаем, тады паклікаем трэцьцяга. І гэдак ў кожнай справе...

Вы ведаеце,—гаварыў ен далей,—як адзін бацька так сама паказаў сваім сынам, што у «аб'еднаньні вялікая моц»?

Сыны маўчалі.

— Гэны бацька узяў, падаў пруток ад веніка, каб адзін сын разламаў, і сын легка яго разламаў. Тады бацька даў такія самыя пруцьця, але звязаные ў гален і каже:—А цяпер разламай!

Сын і ламаць не стаў, бо ён добра ведаў, што венік не зламаеш.

Вось гэдак, сынкі вы мае, і ва ўсём. Калі ты адзін, дык цябе ўсякая няўзгода зломіць, а калі ты не адзін, калі у цябе ёсьць падмога, каля цябе блізенька ёсьць яшчэ хто небуць, хто прыйдзіць табе на падмогу ў бядзе, — дык ты ужо дужы.. На гэтым грунце, сынкі вы мае, і коапэрацыя пабудована і вам трэба ўсёды памятаваць, што ў аб'еднаньні моц.

Прайшло колькі часу. Старык памёр. Праўда сыны яго і пасьля яго сьмерці жылі разам Але ці доўга яны пажылі гэтак, ці не, — гэта няведама. Можа і не — бо ня ўсё-ж добрае лёгка правесьці ў жыцьцё.

Чыжэўскій.

земляроб. і гасуд. маетн.: Алекса, беспартыйны, справядлівасьці: Коробліс, беспарт. абароны: палкоўнік Жунас, соц.-люд. Жыд. справы: Салавейчык, Беларус. справы: Семашка.

# ПА КРАЮ.

## ГОРАДНЯ.

„23 траўня гэт. году дабрачынны адзел тутэйшага Нац. Камітэту ладзіў дзень кветкі на карысьць дзяцей беларусаў. Належнае дазваленьне ад польскай улады была атрымана. Калі на вуліцу выйшлі зборшчыкі з кружкамі, некаторыя польскія грамадзяне пачалі тым ці іншым чынам п рашкаджаць зборшчыкам і забараняць ім хадзіць з кружкамі. З усіх гэтых асоб выдзеліся дырэктарша Польскай Вучыц. Сэмінарыі п. Жураўская, каторая пачала вырываць у зборшчыкаў кружкі і нават некалькі парвала. Апрача гэтага тая-ж п. Жураўская і яшчэ дзве невядомыя пані зьявіліся ў памяшчэньне Нац. Камітэту з пратэстам проціў збору і вымагалі паказаць ім дазваленьне ад польскай улады. Бачучы, што пры такіх варунках збор ня можа быць прадоўжаны, Арганізацыйная камісія пастанавіла збор на гэты дзень прыпыніць.

Заслухаўшы гэта, Белар. Нац. Камітэт у Горадні горача пратэстуе проціў гвалту, які дапусьціла п Жураўская з іншымі асобамі 23 траўня, што павінна тлумачыць, як зьневагу Беларускага жыхарства. Камітэт аднак лічыць, што выпадак гэты ня можна разглядаць як адносіны польскага грамадзянства да беларускага, а ёсьць асабісты паступак п. Жураўскай і яе добрых сяброўак. Камітэт мае надзею, што польскія арганізацыі са свайго боку выкажуць свае адносіны да паступку п. Жураўскай“.

Гэты ліст быў адрэсаваны у горадзенскую польскую газэту „Echo“, але яна яго не надрукавала. Так сама Горадзенскі Нац. Камітэт прасіў «Echo» надрукаваць і гэткую заметку: «у № 93 дзеньніка „Echo“ ад 5 маю у стацьці «абход 3 мая ў Горадні» ёсьць успамінка, што ў гэтым абходзі прымаў вучасьце «Беларускі Саюз», дзеля чаго Белар. Нац. Камітэт у Горадні ад іменьня усіх тутэйшых бэларусаў паведамляе: ніякая беларуская арганізацыя не была прэдстаўлена ў маевым абходзе і так сама не падпісывала акту абвешчанага ў тым самым нумары „Echo“, які дамагаецца ад імені ўсяго насяленьня Горадні і г радзенскага павету прылучэньня іх тэрыторыі да рэспублікі Польскай“. Рэзультат быў той самы.

Н. К.

# ХРОНІКА.

## Навуковае Таварыства.

У Вільні ізноў пачало сваю працу Беларускае Навуковае Таварыства, якое адчынілася яшчэ у часе нямецкай акупацыі. Старшыней выбран п. праф. Іваноўскі, віцэ-старшыней дырэктар Беларускай Гімназіі п. Кахановіч. Статут Таварыства падан на зацьверджаньне Польскай Улады.

## Праваслаўны Зьезд.

Зьезд Праваслаўнага Духавенства і парафіян скончыў сваю працу. Паміж іншым Зьезд пастанавіў дамагацца перафармаваньня істнуючай у Вільні Духоўнай Сэмінарыі у складзі дзьвюх клясаў у поўную, з абавязковым выкладаньнем у ей беларускай мовы, літэратуры і гісторыі.

## Вечарыны у Беларускай Гімназіі.

Грамада Беларускай Моладзі ў Вільні кожную суботу устраівае у будынку Беларускай Гімназіі танцавальныя вечарынкі са сьпевамі, на якіх ахвотна бывае віленская моладзь. Да гэтага часу адбылося ўжо пяць вечарын.

## Чырвоны Крыж.

Лёнданскі Аддзел Расейскага Чырвонага Крыжа адчыніў у Вільні танную сталоўку для інтэлегенцыі. Абед з двух страў (адно з мясам) каштуе 6 марак. Памяшчаецца сталоўка у праваслаўным Духавым манастыры. Там жа адчынена дармовая амбулаторыя для хворых.

## Зямельная рэформа на „Усходніх Землях“.

Замельны аддзел Генеральн. Камісарыяў У. З. патрэбаваў ад Зямельных

рэфэрэнтаў староставаў падачы не пазьней, як да 25 чэрвеня, справаздач аб урадовых маентках, а так сама аб вялікшай, сярэдняй і меньшай прыватнай ўласнасьці ў паветах. У дакладах павінна быць указана колькасьць маёнткаў кожнай катэгорыі і агульны іх абшар. Вялікшая ўласнасьць пачынаецца ад 500 дзесяцін і вышэй, сярэдняя — ад 80 до 500 д. і меншая ніжэй 80 д. Павінны быць абазначаны ў дакладах малыя гаспадарства, налічваючыя меньш, як 10 дес. Такім чынам, зямельная рэформа на „Усходніх Крэсах“ ужэ распачалася.....

### В. Студніцкі і К° аб Базільянскіх Мурах.

У нядзелю, 20 чэрвеня г. г., ў Гарацкой Залі адбыўся сход, склікавы Віленскім польскім Саюзам „Jednašci i Sily“, на каторым паміж іншым ухвалена і такая рэзалюцыя:

„Сход прызывае Віленскую гарацкую раду, пачаць адпаведныя стараньня перад цывільнаю ўладою, каб Базільянскіе муры (памятка па св. Есафаце Кунцэвічу, а таксама і мейсца адсідкі вялікага Адама) былі аддадзены пад апеку польскага грамадзянства і каб і ў „celi Konrada“ была ўмурована адпаведная памятная табліца“.

Нам здаецца, што такія рэзолюцыі толькі шкодзяць польскаму грамадзянству, бо сьведчаць аб аднабокасьці асьвятленьня пытаньня аб тым, хто мае права карыстацца Базільянскімі мурамі. Усім зразумела, што будынкі ад таго, што у іх хто небудзь (будзь то самы знамяніты чэлавек) працаваў або сядзеў ў адсідцы не становяцца уласнасьцю гэтых асоб, або трэйціх. Калі Мураўеў бясспраўна адбіраў ў каго хацеў уселякую ўласнасьць, то цяпер паступаць па-Мураўёўскі не выпадае.

Як ведама і п. В. Студніцкаму, Базільянскіе будынкі належаць і належалі да Св. Троіцкага Праваслаўнага монастыра і ў іх цяпер месьціцца 1-ая Віленская Беларуская гімназія, а так сама і Праваслаўная духоўная Сэмінарыя.

Праўда, што ў манастыры св. Тройцы і Базільянскіх будынках жылі некалі уніяты і Есафат Кунцевіч, але раней іх і пасьля іх жылі і жывуць праваслаўныя, што безапэляцыйна сьведчаць аб іх правах, і польскаму грамадзянству да гэтых муроў ня можна мець пратэньзіяў, як на польскую уласнасьць ці на уласнасьць пад польскай апекай.

Што датычыць памятнай табліцы па „вялікім Адаме“ (Міцкевічу), то каб ў беларускаго грамадзянства былі патрэбные на тое грошы, то яно само даўно-б увекавечыла імя беларуса па крыві Адама Міцкевіча, прабыўшага ў адсідцы ў Базільянскіх мурах. Беда наша—беднасьць наша.

### Рэгістрацыя беларускіх вучыцялеў.

Беларуская школьная Рада Віленшчыны просіць усіх вучыцялеў добра ведаючых родную мову, ці праслухаўшых курсы беларусазнаўства, зарэгістравацца у канцэляры Рады (Вострабрамская, 9), дзеля таго, што яны могуць быць патрэбны для працы у адчыненых беларускіх школах.

## Думы Беларуса.

### Аб сучаснай вайне.

Вайна, якая цяпер ідзе паміж Польшчай і Расеяй ёсьць прадукт нашай нацыянальнай несьвядомасьці і дзеля таго яна вядзецца на нашай зямліцы і за нашу няшчасную старонку. Наша нацыянальная несьвядомасьць — наша цяжкая хвароба, але гэта вайна нас ад такай хваробы вылячыць.

### Аб зямельнай рэформе на Беларусі.

Начальнікам Польскай Дзяржавы выдан дэкрэт на імя Гэнэральнага Камісара Усходніх Зямель аб зямельнай рэформе на Беларусі, згодна з ухвалай Польскага Сойму.

### Друзьзя і ворагі.

Царскія гэнералы Врангель і Брусілаў вядуць паміж сабой вайну за шчасьце расейскага народу. Абодвы яны лічуць сябе другам, а праціўніка ворагам гэтага народу. Ізбаві Бог нас ад такіх друзьзей, а ад ворагаў збавімся мы самі.

Рэдактар Г. Богдановіч. Выдавец У. Знамяроўскі.

Пазволена Ваеннаю Цанзураю. Друкарня. Кооп. Тавар. „ДРУК“, Троцкая, 13.